Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# НАПЕРАД!

Беларуская радыкальная тыднёвая часопіс.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская 8, кв. 3.

Прыймо інтэрэсантаў ад 9 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: на 1 год—7 зл., за паўгоду—3 зл. 50 гр., за 3 мес.—2 зл., за 1 мес.—75 гр.

Год 2. Вільня, 30 красавіка 1930 г. №. 16

**З вялікім сусьветным Сьвятам Працы—1-га Мая—вітаем працоўныя масы Беларускага Народу!**

## Выбары.

На невялікім прасторы Лідзкага выбарнага вокругу, які абыймае шэсьць беларускіх паветаў: Лідзкі, Ашмянскі, Валожынскі, Вялейскі ды новаствораны Маладэчанскі і Шчучынскі—адбываюцца перавыбары паслоў у Сойм. А ў сувязі з гэтым разгараецца нязвычайна вострая барацьба паміж партыямі—аб падзел мандатаў.

Калі-б выбары адбываліся на тэрыторыі ўсяе дзяржавы, дык кожная партыя, якая хоча быць „прадстаўніцай народных масаў“, мела-бы аднachасна лішне многа работы ў кожным выбарным вокрузе і на паасобныя акругі магла-б пасылаць абмежаную лічбу сваіх агітатараў і—грошы. Але цяпер на тэрытарыю сказаных шасьцёх беларускіх паветаў, што разам складаюць адзін вокруг, паляцелі цэлыя хмары агітатараў і выбарных агентаў, і кожная—навет зусім нязначная палітычная групка можа пачуваць сябе тутака даволі сільнай, каб працягнуць рукі па пасольскія мандаты. Вось чаму выбарная барацьба тут гэтак завастраецца.

Ніжэй мы падаем рад карэспандэнцыяў з „поля бітвы“. Яны вельмі характэрныя. Але асабліва характэрнымі трэба лічыць дзьве новыя ў нас рысы. Гэта — партыйная барацьба беларусоў ня толькі з дружным наступам цэлага раду польскіх партыяў, але і паміж сабою,—з аднаго боку; адносіны сялянскіх масаў да выбарнае акцыі—з другога.

У выбарнай барацьбе прымаюць учасьце гэткія беларускія групы: радыкальна-нацыянальная Янкі Станкевіча; хадэцка-сельсаюзьніцкая; група сялянска-работніцкага пасольскага клюбу „Змаганьне“; камуністы. Ясна, што, калі-б дапусьціць на мамэнт зьдзейсьненьне таго, што ў нашых варунках немагчыма: зьдзейсьненьне аб'яднаньня ўсіх беларусаў пад лёзунгам барацьбы з чужацкімі партыямі,—дык перамога беларусаў была-б больш, чым бліскучая. Але завастрэньне адносінаў паміж пералічанымі беларускімі групамі зайшло лішне далёка, каб можна было гаварыць аб нечым падобным. Больш таго: камуністы і іх падгалоскі адкрыта заяўляюць, што лепш ужо даваць галасы за польскае „стронніцтво хлопске“, чым за сьпісак Янкі Станкевіча, бо... Янка Станкевіч „нацыяналіст“, а „стронніцтво хлопске“ злучае сялян на клясовым груньце; дык — лепш беларусам „растапіцца ў польскім моры“, чым выбраць беларускага патрыёта... З другога боку хадэкі і сельсаюзьнікі, карыстаючыся ўслугамі такіх агітатараў, як далёкія ад беларусаў сэнатары Багдановіч ці Рагуля, ды агітуючы за беларуска-жыдоўскі блёк, б'юць ізноў-жа па чыста-беларускім сьпіску Янкі Станкевіча. І гэта ўсё ўносіць у беларускія масы дэзорыентацыю, недаўменьне: калі ня трэба галасаваць за свой, чыста беларускі сьпісак, дык дзе-ж тая „беларускасьць“ паасобных палітычных групаў? Дзе наагул—беларуская ідэя?

Апошняе пытаньне — асабліва балючае для тых сялянскіх масаў, якія ў працягу апошніх дзесяцёх гадоў вельмі значна ўсьведаміліся нацыянальна і выдзяржалі гэткую цяжкую барацьбу над беларускім нацыянальным сьцягам у часе існаваньня і разгрому Грамады. Людзі проста апускаюць рукі, чуючы ад камуністаў, якія яшчэ так нядаўна самі падтрымлівалі акцыю падаваньня школьных дэкларацыяў на беларускую школу, як і кожную масавую акцыю наагул, — што беларуская школа—гэта „кулацкая выдумка“, што яна „нам“ непатрэбна, што за яе ня трэба змагацца. Барацьба за вызваленьне беларускіх працоўных масаў ад нацыянальнага ўціску—гэта, як цяпер кажуць камуністы, пустая трата сіл. „Спускайся, куме, на дно!“ Затое—на беларускіх касьцёх—затрыумфуе некалі сусьветная рэвалюцыя і — дасьць вызваленьне ўсім іншым народам!... І вось, слухаючы такую агітацыю, толькі-што ўсьведаміўшыяся нацыянальна масы ня ведаюць, што ім думаць. А ў выніку гэтага—адны адварачваюцца ад камуністаў і йдуць па чыста нацыянальным шляху, злучаючы ў-вадно барацьбу за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленьне, другія — зусім падчыняюцца камуністычным дырэктывам і зьяўляюцца страчанымі для беларускае справы.

Ясна, што палажэньне беларускага сялянства на гэтых выбарах будзе—ў выніку ўсяго гэтага—вельмі трудным. Ня лёгка зрабіць выбар, калі з розных бакоў гэтак красамоўна прамаўляюць розныя агітатары, калі ў барацьбе з прадстаўнікамі беларускае вызвольна-адраджэнскае ідэі выступаюць рука ў руку... камуністы і агенты дэфэнзывы, як гэта было ў м. Вішняве (гл. карэспандэнцыі).

Вёска яшчэ верыць выбарным праграмам і гоніцца за найбольш крыклівымі, найбольш дэмагогічнымі з іх, думаючы, што ўсе іх пасулы будуць зьдзейсьнены, калі народ дасьць свае галасы прадстаўнікам такіх-то партыяў. Але гэтую веру жыцьцё патроху пачынае разьбіваць. І мы былі-б вельмі рады, калі-б наступныя нашы словы аб гэтым запалі глыбака ў сэрцы беларускіх сялян: не ў праграмах сіла, а ў масах народных, у іх усьведамленьні, арганізаванасьці і актыўнасьці. зьдзейсьнена будзе ня тое, што напісана ў палітычных праграмах, а тое, што народ „сілай папрэ“.

## Звальненьне з вастрогу Тарашкевіча.

У „Kur. Wil.“ з 26 красавіка надрукована гэткая вестка:

„Як даведываемся з самых пэўных крыніц, у найбліжэйшых днях — шляхам памілаваньня панам Прэзыдантам Рэспублікі — будуць звольнены трыманыя ў вастрозе павадыры б. Беларускае Грамады, засуджаныя прыгаворам Апэляцыйнага Суда ў Вільні на 3 да 6 гадоў вастрогу. У ліку засуджаных знаходзяцца былыя паслы папярэдняга Сойму Тарашкевіч, Мятла і Рак-Міхайлоўскі, якіх у першы чарод абыйме памілаваньне“.

Аднак, на дзеле звольнены пакуль што з вастрогу адзін толькі Тарашкевіч, дый то не шляхам памілаваньня, а шляхам прыпыненьня кары.

Вялікая пара, каб акт элемэнтарнае справядлівасьці быў урэшце зьдзейсьнены ў адносінах да ўсіх засуджаных у працэсе Грамады.

---

У панядзелак, 28 красавіка, б. пасол Браніслаў Тарашкевіч прыехаў у Вільню.

## Працэс Харвацкай „Грамады“.

24 красавіка пачаўся ў Белградзе — у спэцыяльным „Трыбунале дзеля Аховы Дзяржавы“— вялікі працэс павадыроў харвацкай „сялянска-дэмакратычнай партыі, „ахопліваючай, як ведама, блізу цалком увесь харвацкі народ. 24 дзеячы гэтай партыі, на чале з яе афіцыяльным павадыром д-рам Мачкам, наступнікам слаўнага Сьцяпана Радіча, вінавацяцца ў падрыхтаваньні выкананьня раду тэрорыстычных актаў у працягу 1929 г.

Акт абвінавачэньня кажа, быццам двое падсудных, Бэрнарді і Хадія, залажылі дзеля выкананьня замахаў дзьве арганізацыі: адну ваенную, другую цывільную. Сябры гэтых арганізацыяў мелі патрэбнае аружжа і выбуховыя матэрыялы, з якімі, пачынаючы ад лістападу мінулага году, зрабілі рад тэрорыстычных замахаў, падрабязна пералічаных у акце. Далей акт закідае другім падсудным-братом Бегічавым і Елачычу, фінансаваньне гэтай тэрорыстычнай баёўкі, грошы на што даваў ім сам афіцыяльны павадыр партыі, доктар Мачэк, як да гэтага быццам „прызналіся“ самі Бегічавы і Елачыч.

На гэты працэс з усей харватыі прыехала ў Велград шмат народу. Паміж іншым прыбыла і спэцыяльная дэлегацыя, якая быццам мае зьвярнуцца да караля з просьбай аб поўным зьліквідаваньні ўсей справы. Усё гэта кажа выразна аб тым, што працэс чыста палітычны, ці ясьней кажучы, проста штучна сфабрыкаваны, прынамся ў частцы, якая датычыць афіцыяльных павадыроў партыі.

Трэба аднак-жа прыпомніць яшчэ зусім сьвежыя падзеі з сэрбска-харвацкай барацьбы, якая зрэшта, зусім натуральна й мусіла давясьці пераможаных гвалтам, але не пераможных маральна харватаў да тэрарыстычнага шляху абароны сваіх пагвалчаных правоў.

Трэба ведаць, што харвацкі народ лічыць сябе слушна асобным народам, ня гледзячы на блізкасьць свайго языка да сэрбскага. Але сэрбскія „эндэкі“ цэнтралісты, даводзячы, што „Антанта аддала ўладу над усей Югаславіяй аднэй Сэрбіі“—за яе асаблівыя заслугі ў вялікай вайне, —творачы Югаславію, скасавалі навет тыя правы аўтаноміі паасобных краін, якімі гэтыя краіны карысталіся, навет „пад немцам“—да вайны, у часе аўстрыяцкага панаваньня над імі. Харватыя, як найбольш арганізаваны ды сьведамы нацыянальна край, падняў проці гэтай цэнтралізацыйнай акцыі і „сэрбізацыі“ ўсей Югаславіі — бунт, пагражаючы поўным аддзяленьнем ды абвяшчэньнем незалежнай Харвацкай рэспублікі.

Атрымаўшы сільны адпор збоку харвацкага народу, моцна падтрымаўшага сваіх выбранцаў-паслоў, кароль сьпярша пайшоў на уступкі, тады нейк злагодзіўся і самы рух у Харватыі. У асабістым паразуменьні з каралём павадыр харвацкіх незалежнікаў-рэспубліканцаў Сьцяпан Радіч адмовіўся ад лёзунгаў незалежнасьці і рэспублікі, але патрэбаваў поўнай аўтаноміі і поўнасьці для Харватыі. Здаровы кампраміс меў, здавалася, усе надзеі на зьдзейсьненьне. Але павадыром сэрбскіх нацыяналістаў гэтае паразуменьне было недасмаку, і яны справакавалі ведамыя крывавыя здарэньні ў белградзкім Сойме 20 чэрвеня 1928 г. Як ведама, тады адзін з іх стрэламі з рэвальвэру параніў і забіў трох харвацкіх паслоў, а паміж імі і самога вялікага павадыра харвацкага народу, Сьцяпана Радіча.

Гэта ізноў распаліла барацьбу паміж харватамі і сэрбамі. Харвацкія паслы заявілі, што ня могуць прымаць учасьце ў працы гэтага сойму, дзе былі забіты іх павадыры, і трэбавалі новых выбараў. Урад караля Аляксандра крывадушна цягнуў справу... Аж урэшце перамаглі ўплывы на яго з боку найбольш рашучых цэнтралістаў-фашыстаў, якія 6 студня 1929 г. і зрабілі ведамы „каралеўска-фашыстаўскі“ ваенны пераварот. Пераварот быў дакананы найбліжэйшым дарадцам караля, ген. Жывковічам.

Зразумела-ж, першым чынам быў распушчаны „на тры гады“ парлямант ды ўведзена жорсткая „ваенная цэнзура“, каб весткі аб тым, што робіцца ў краі, ішлі за-граніцу толькі ў „апрацоўцы“, дагоднай ураду. Наагул, увесь край быў пастаўлены блізу на ваеннае палажэньне, у стане якога жыве дагэтуль.

Ген. Жывковіч пачаў „працаваць“. Першым чынам была абвешчана „нелегальнай“ адзіная ў Харватыі партыя, аб'яднаўшая ў сваім лоне ўвесь харвацкі народ. За пратэсты проці гэтага незаконнага акту былі зараз-жа арыштаваны ўсе найвыдатнейшыя яе павадыры. Пратэсты прызнаны былі „незаконнымі й абражаючымі суверэнную волю караля“.

Далей былі абвешчаны распушчанымі—„у поўным паразуменьні (!?), з павадырамі іх“ — усе палітычныя партыі краю... І вось, ператварыўшы ўсё арганізаванае жыцьцё дзяржавы і паасобных яе краін — у пустыню, ген. Жывковіч пачаў „працаваць“ над „новым падзелам і ладам Югаслаўскай дзяржавы“ — на падставе адзінства дзяржаўнасьці і адзінага югаслаўскага чытай: сэрбскага народу“.

Гэтая „праца“ азначала самую неабмежаную, робленую ваенна-паліцэйскімі мерамі і гвалтамі, цэнтралізацыю і „сэрбізацыю“ гаспадарства; яна яўна ламала канстытуцыю, прызнаўшую ў югаславіі тры роўныя дзяржаўным народы: Сэрбаў, Харватаў і Славенцаў і быўшую адным з варункаў, на якіх Антанта аддала каралю Аляксандру ўладу ў усіх трох краінах гэтых народаў.

Аб тым, што і як робіцца ад гэтага перавароту ў Югаславіі, мы ведаем, нажаль, вельмі мала: так шчыльна заткнула ўсе „дзіры“ ў краі каралеўская цэнзура... Але можна сабе прадставіць, што вытваралі ды вытвараюць усьцяж сэрбскія цэнтралісты, дарваўшыяся да „поўні ўлады“ ў зьненавіджанай імі Харватыі...

Ня дзіва, што на такім добра „угноеным“ груньце ў Харватыі закрасаваў — у адказ на „законны“ ўрадовы тэрор—тэрор з боку народу...

Вось белградзкі працэс 24 харвацкіх тэрорыстаў і мае судзіць гэты адказны тэрор з боку народу. Ведама-ж, трудна сказаць, колькі ў гэтых закідах пракурора праўды, колькі ўсялякай правакацыі ці маны з боку сэрбскай паліцыі і ўсялякіх „дабравольцаў“. Трэба думаць аднак-жа, што, калі белградзкі суд хаця крыху розьніцца ад звычайнага тыпу „балканскай юстыцыі“, дык шмат на працэсе высьветліцца праўды аб тэроры урадавым, які толькі неадхільна павінен быў выклікаць тэрор з боку ўсякага жывога народу...

## Канец і рэзультаты Лёнданскай Канфэрэнцыі.

Пасьля трох месяцаў працы Лёнданская Канфэрэнцыя, адчыніўшаяся 21 студня ўрэшце афіцыяльна закончыла сваё жыцьцё 22 красавіка г. г. Ня гледзючы на афіцыяльна выражанае здаволеньне дэлегацыямі ўсіх марскіх дзяржаваў, рэзультаты Канфэрэнцыі павінны быць прызнаны нездаваляючымі.

На сам перш-агульная мэта Канфэрэнцыі, так рэклямаваная перад яе распачацьцем: агульнае паразуменьне марскіх дзяржаваў у справе абмяжаваньня збраеньняў і ўсталеньня раўнавагі іх марскіх сілаў на азначаны час—асягнена ня была. З пяцёх марскіх дзяржаваў-сябраў Канфэрэнцыі—толькі тры з іх дагаварыліся да паразуменьня. За тое-паміж дзьвюма з іх раскрыліся такія войстрыя супярэчнасьці іх палітычна-марскіх інтарэсаў, якія з нячуванай яшчэ яркасьцяй высьветлілі зародкі няўхільнага новага ваеннага канфлікту ў Эўропе можа навет у бліжэйшай будучыні...

Італія вяла сябе адносна да Францыі на Канфэрэнцыі так, як можа гэта рабіць толькі дзяржава, станоўча здацыдаваная ўжо на вайну і адкрыта да яе рыхтуючаяся... Таму абедзьве гэтыя дзяржавы пакінулі Канфэрэнцыю — „не разьвітаўшыся“, запраўды, як перад канчальным разрывам, які магчымы ў сувязі з лішне вялікім апэтытам Мусоліні на францускія калёніі ў Афрыцы.

Што-ж датычыць паразуменьня трох акіянскіх дзяржаваў — Амэрыкі, Англіі і Японіі, дык пастаноўлена ў працягу 6 гадоў—да 1936 г.—забіць так-званыя „марскія вакацыі“, гэта значыць, што за гэты час ніводная з дзяржаваў ня будзе замяняць новымі існуючыя ў іх браняносцы. Францыя і Італія, здаецца, заявілі, што пакідаюць сабе ў гэтым пункце „вольную руку“.

Справа абмяжаваньня будовы так званых „авіо-матак“, ці спэцыяльных караблёў з значным лікам ваенных самалетаў,—адкладзена да 1935 г., калі мае сабрацца чарговая марская Канфэрэнцыя. Амэрыка, Англія і Японія ўмовіліся адносна да агульнага ліку ваенных караблёў, што Англія мае права на агульную лічбу 541.000 тоннаў, ня лічучы вялікіх браняносцаў; гэта значыць, што стольлькі тоннаў будзе мець рэшта флёту, складаючаяся з крэйсэроў вялікшых (15 адзінак) і меншых, контрміначосцаў і падводных лодак. Амэрыка атрымала крыху меншую агульную лічбу тоннажу гэтых усіх клясаў—таму, што мае крыху большы тоннаж браняносцаў (Англія згадзілася зьніштожыць рад старых браняносцаў), а іменна — 526.000 тоннаў. З гэтай лічбы тоннажу Амэрыка мае 18 вялікіх крэйсэраў, за тое меншы лік меншых крэйсэраў, чым Англія, для якой больш патрэбны меншыя крэйсэры — для яе вялізарнай лічбы раскінутых па ўсім сьвеце калёніяў. Лічбы тоннажу мінаносцаў і падводных лодак Амэрыка і Англія атрымалі роўныя. Японія атрымала агульны тоннаж у ліку 367.050, у тым—12 вялікшых крэйсэраў і роўны з Англіяй і Амэрыкай тоннаж падводных лодак.

З апошняга відаць, што першапачатнае трэбаваньне Англіі аб поўным скасаваньні падводных лодак—канфэрэнцыяй адкінена: як ведама, і Францыя, і Японія рашуча запратэставалі процi гэтага дамаганьня Англіі; асабліва Францыя заявіла, што яна—„ад імя ўсіх меншых дзяржаваў“—ня можа адмовіцца ад гэтага „найлепшага і найтанейшага аружжа марской абароны слабых і бедных дзяржаваў“. Як ведама, падтрымлівае падводныя лодкі і Польшча, як найбяднейшая з марскіх дзяржаваў. У клясе мінаносцаў Англія так сама пайшла на значную ўступку. Сьпярша яна трэбавала для сябе 200.000 тоннаў, а пасьля спусьціла 25%, абмежыўшыся да 150.000 тоннаў.

Спэцыяльна выданая толькі што ангельскім урадам так званая „белая кніга“—аб рэзультатах Лёнданскай Канфэрэнцыі — кажа, што ў выніку гэтага паразуменьня 3 дзяржаваў яны ўсе разам зьберагуць у працягу бліжэйшых 6 гадоў каля 250 мільёнаў даляраў толькі з прычыны спыненьня будовы новых браняносцаў і абмяжаваньня будовы вялікіх крэйсэраў. Апроч таго, гэтыя дзяржавы з'эканомяць яшчэ каля 20 міл. даляраў з прычыны прысьпяшэньня разборкі старых ваенных караблёў. Спэцыяльна для Англіі лёнданскае паразуменьне дае яшчэ і эканомію 65 міл. даляраў—на значным абмяжаваньні праграмы будовы новых ваенных караблёў, праграмы, якую англійскі ўрад яшчэ ў 1927 г. — на Канфэрэнцыі ў Жэнэве—лічыў „неабходнай і нязьменнай“...

## Заграніцай.

### Літва—Польшча.

Літоўскія сацыял-дэмакраты ў сваей прэсе дамагаюцца ўзнаўленьня эканамічных зносінаў Літвы з Польшчай, ня гледзячы на палітычны спор аб Вільны. Адсутнасьць транзітнага руху праз Літву з Польшчы ўплывае ад'емна ня толькі на рынак працы і грошаў у Літве, але і на гаспадарчыя адносіны Літвы з Латвіяй і Эстоніяй, якія таксама заінтэрэсаваны ў гэтым транзіце. Зачыненьне транзіту выклікае агульны гаспадарчы ўпадак у краі. Але яшчэ пытаньне,—піша орган сац.-дэмакратаў Літвы,—ці памагае вырашэньню палітычнага спору з Польшай гэтае самагубнае з гаспадарчага пагляду спыненьне польска-літоўскіх адносінаў. „Літоўскасьць“ Вільні можа-б яшчэ выйграла, калі-б узнавіўся вольны абмен людзьмі і таварамі паміж Коўнай, тымчасовай сталіцай Літвы, і Вільняй—сталіцай яе запраўднай...

### СССР—Англія.

16 красавіка—пасьля доўгіх перагавораў—падпісана ў Лёндане Гэндэрсонам і Сакольнікавым (полпрэдам СССР) тымчасовая гандлёвая ўмова паміж СССР і Англіяй. Тымчасовая гэтая ўмова дае абедзьвюм старонам правы найкарысьнейшага ўзаемнага трактаваньня ў абодвух краёх. Аднак-жа радавы ўрад выгаварыў сабе права даваць некаторым сваім суседзям выгаднейшыя варункі, як англійцам, што, зразумела, точна азначана ў трактаце. Радавы ўрад цалком захоўвае свой „Внешторг“, ці манаполь заграгічнага гандлю, на што згадзілася Англія, дазволіўшая ізноў заснаваць у Лёндане „торгпрэдства“ (тарговае прадстаўніцтва)—у складзе аднаго торгпрэда і 2-х яго паўнамочнікаў. Торгпрэдства ўваходзяць у склад пасольства, і гэтыя 3 асобы, складаючыя тарговае прадстаўніцтва, карыстаюцца ўсімі правамі і прывілегіямі дыплёматаў, гэта значыць—правамі нятыкальнасьці і т. зв. „экстэрытарыяльнасьці“ (недаступнасьці для англійскіх уладаў) усіх будынкаў, занятых торгпрэдствам. Але ўсе спорныя справы паміж торгпрэдствам і англійскімі фірмамі маюць вырашацца ў англійскіх судох. Тымчасовая ўмова будзе мець сілу да часу падпісаньня сталага трактату, але абедзьве староны могуць адмовіцца ад яе, заявіўшы аб гэтым за 6 месяцаў. Варункі гэтай умовы могуць быць пашыраны на ўсе брытанскія дамініі і калёніі.

Радавая прэса вельмі здаволена падпісаньнем умовы, якая—„цалкам адказвае тым падставам, якіх дамагаўся заўсёды радавы ўрад“...

„Известия“ лічаць умову „здарэньнем вялізарнай вагі“, падчырківаючы, што ў трактаце няма ніякіх спэцыяльных абмежаньняў, скіраваных процi СССР, асабліва ў галіне крэдытаў. Асабліва здаволены ў Маскве тым, што падпісана ўмова якраз у мамэнт, калі „ўся сусьветная рэакцыя аб'яднаялася ў ваяўнічых настроях проці СССР“... „Правда“ піша, што проці радавая прапаганда ў Англіі з гэтай умовай ня спыніцца, але падпісана ўмова пад яўным націскам англійскай работніцкай клясы.

# Палітычнае жыцьцё.

## Польшча.

### Крывавыя дэманстрацыі безработных.

На груньце цяжкага гаспадарчага крызісу шмат дзе ў Польшчы адбыліся вельмі небясьпечныя выступленьні безработных, якія часам канчаліся крывава. Асабліва цяжкія здарэньні мелі мейсца ў м. Заверце (Келецк. ваяв.). Падаем апісаньне гэтых здарэньняў паводле „Работніка“, дадаўшы і афіцыяльнае высьвятленьне „ПАТ“-а.

Выступленьне безработных мела месца ў вялікую пятніцу—18 красавіка. Выступленьне ператварылася—„ў крывавую стычку паліцыі з безработнымі, якая цягнулася ад 4 гадз. да 7 гадз. вечара“... У выніку гэтага палягло 4 забітых, ды адзін з цяжка раненых ужо ледзь дыхае; пабітых і пакалечаных работнікаў—звыш 30 асоб, але яны хаваюцца, каб ня быць арыштаванымі. Сярод паліцыянтаў—7 раненых.

Ход падзеяў быў такі. Безработныя, сабраўшыся, чакалі абяцанай выплаты дапамогі. Калі з магістрату прыйшла вестка, што „засілкі“ будуць выданы толькі ў суботу, таўпа пачала хвалявацца. Тады павадыры „бэбэсаў“ пачалі падбураць таўпу, каб кінулася на магістрат. Але ў магістраце ўжо была згуртавана паліцыя, якая пачала выпіраць таўпу з панадворку. На падмогу пешай паліцыі раптам зьявіўся атрад коннай, які ўскач урэзаўся ў таўпу, каб яе расцярушыць. Але безработныя, падбураныя бэбэсамі, спаткалі паліцыянтаў каменьнямі, на што тыя адказалі залпамі з карабінаў. Пачалася запраўдная бітва. На сьлізкім асфальце паліцэйскія коні падалі... З усяго мястэчка зьбеглася насяленьне, якое так сама прыняло ўчасьце ў баталіі.

На падмогу мясцовай паліцыі былі выкліканы паліцэйскія атрады з суседніх паветаў. Тады толькі бітва скончылася перамогай паліцыі.

Пасьля пачаліся вобыскі і арышты. Арыштавана ўсяго 40 асоб.

Высьвятленьне „ПАТ“-а кажа, што войска ў здарэньнях у Заверці ніякага ўчасьця ня прыймала. Два жаўнеры толькі прыпадкова апынуліся ў таўпе. Як сьцьвярдзіла судова-лекарская камісія, усе раны зроблены рэвальвэрнымі кулямі. Паліцыя дала „асьцерагаючы залп“ толькі пасьля стрэлаў у яе з рэвальвэраў збоку акружыўшай яе таўпы.

Як падае ўрадавы „ПАТ“, у Петракове 24 красавіка група безработных, згодна з пастановамі мясцовых арганізацыяў камуністаў і ППС-лявіцы, зрабіла спробу нападу на магістрат. Папярэджаны магістрат зьвярнуўся да паліцыі, якая заняла ўваходы ў гмах магістрату. Тымчасам паліц. патрулі разагналі таўпу.

У Чэнстахове перад гмахам „П. У. П. П.“ сабралася таўпа безработных, трэбуючы працы. У часе сутычкі з паліцыяй адзін з безработных выцяў паліцыянта цэглай. Больш паважных здарэньняў ня было.

Уся прэса падчырківае небясьпечнасьць гэтага завастрэньня настрояў сярод безработных, барацьба з якімі толькі шляхам паліцэйскіх рэпрэсіяў нідзе і ніколі не давала добрых вынікаў. Санацыйная прэса вінаваціць у здарэньнях пэпэсаў. „Газ. Польска“ піша, што ўрад дае безработным колькі можа: больш скарб Польшчы даць ня ў сілах. Безработных—паводле гэтае газэты—у Польшчы менш, як у іншых дзяржавах. Але на гэта „Работнік“ адказуе, што афіцыяльная лічба безработных—300 тыс.—не выяўляе праўды аб фактычным стане безрабоцьця. Лодзкія прамысловцы падлічылі, што ў-ва ўсей Польшчы працуе цэлы тыдзень толькі 500 тыс. работнікаў, а ўсяго работнікаў у Польшчы каля 3 з паловаў мільёнаў.

У м. Сосноўцу так сама—перад самымі сьвятамі—дойшло да вострых сутычак з паліцыяй — па груньце нявыплаты „засілкаў“ безработным.

На гэты раз вінаватыя, як цьвердзіць „Robotnik“, былі цэнтральныя ўлады, цягнуўшыя справу, ня гледзючы на захады з боку Магістрату. 15 красавіка работнікі, сабраўшыся на панадворку Магістрату, атрымалі адказ, што „заўтра“ справа выплаты мае быць вырашана, і пачалі спакойна расхадзіцца. Раптам паліцыя арыштавала сярод іх аднаго з іх дэлегатаў. Работнікі заступіліся за таварыша. Тады паліцыянты пачалі біць прыкладамі і шаблямі работнікаў.

Перачытаўшы газэту —
перадай другому.

## Кароткія навіны.

25.IV ў Варшаву прыехаў начальнік румынскага генаральнага штабу ген. Самсоновіч—разам з вышэйшымі штабавікамі. Уся гэтая дэлегацыя мае прабыць ў Варшаве аж да 3 траўня.

Нямецкая і аўстрыяцкая прэса даюць шмат тлумачэньняў гэтай візыты.

У Варшаве выкрыта ў гмаху савецкага пасольства вялізарнае сілы бомба, спушчаная праз комін. Да бомбы былі праведзены электрычныя дроты, па якіх меў быць пушчаны ў патрэбны мамэнт ток, каб узарваць бомбу. Калі-б стораж суседняга дому прыпадкова ня выкрыў гэных дротаў, дык увесь гмах пасольства мог-бы быць гэнай бомбай зруйнаваны.

У Львове паліцыя арыштавала двух людзей, у якіх знайдзена шмат выбуховых матэрыялаў.

Паліцыя думае, што гэта—сябры „украінскай ваеннай арганізацыі“ (?), якія рыхтаваліся да бомбавага замаху. Сьледзтва ідзе, дык прозьвішчы арыштаваных пакуль-што хаваюцца ў тайне.

У Львове-ж зьліквідаваны мясцовы аддзел „Камун. Партыі Зах. Украіны“. Арыштаваны некулькі

У вялікую суботу, 19.IV, скончыўся ў Харкаве галосны працэс 45 дзеячоў украінскай незалежніцкай арганізацыі, на чале з ведамым віцэ-прэзыдэнтам Украінскай Акадэміі Навук, праф. Ефрэмавым. Праф. Ефрэмаў, япіскап украінскай аўтакэфальнай царквы Чэхоўскі, былы міністар ураду Пятлюры Нікоўскі, ведамая пісьменьніца Старыцкая Чэрняхівская і яшчэ сем украінскіх вучоных—прызнаны заслужыўшымі кару сьмерці. Але суд—прыняўшы пад увагу стары век засуджаных цый іх шчырае „раскаяньне“, дараваў усім ім жыцьцё, але пасадзіў усіх на 10 гадоў у каторжную турму (ці-ж гэта ня гая-ж кара сьмерці для старых лыдзей!?) З рэшты падсудных—28 засуджаны на цяжкі вастрог ад 3 да 8 гадоў. 5 прысуджаны да выгнаньня з межаў Украіны на 3 гады. Усяго разам падсудныя засуджаны на 225 гадоў катаргі.

Сьледам за рыжскай газэтай „Latvis“ польская прэса падае вестку аб вялікім узбурэньні сярод чырвонае арміі — асабліва ў Ленінградзкім вокрузе — з камуністаў, сканфіскавана шмат літэратуры, падрыхтаваннай да рассылкі ў правінцыю— у сувязі з 1мая.

прычыны гвалтаў Сталіна над сялянствам. У Ленінградзе быццам мусілі суцішаць чырвонаармейцам сам Калінін ды Варашылаў, якім і далі абяцаньне, што калектывізацыя на вёсцы будзе спынена. Быццам пасьля гэтага Калінін намовіў Варашылава і Крупскую (удаву Леніна), каб яны пайшлі да Сталіна трэбаваць спыненьня калгаснае палітыкі. У мамэнт, калі Крупская — падчас гутаркі — сунула руку ў кішэню, каб дастаць насатку, Сталін, баючыся замаху, выхапіў рэвальвэр і скіраваў яго проці Крупскай. Толькі прысутнасьць Варашылава ўхіліла крывавую разьвязку.

Як бачым, дрыжыць скура на правакатару!

Барацьба з камуністамі ў Нямеччыне прымае ўсё больш рашучы характар. Абурэньне сярод усяго грамадзянства выклікаюць бясспынныя аружныя напады камуністаў на палітычных праціўнікаў і на паліцыю.

20.IV у Лейпцыгу—у „дзень камсамолу“—дэманстранты напалі на паліцыю, якая абараняючыся (?) пусьціла ў ход гумовыя „дубцы“, а навет агнястрэльнае аружжа. У выніку сутычкі 2 паліцыянты і 1 дэманстрант—забіты, 4 паліц. і 4 камсамольцы—ранены. Пасьля гэтага ўсялякія дэманстрацыі і сабраньні—не ў зачыненых памешканьнях—у дзень камсамолу былі забаронены.

У той жа дзень 20 красавіка ў цэлым радзе местаў—у Мюнхене, Нюрэнбэргу і інш.—паліцыя зрабіла вобыскі ў сэкрэтарыятах ком. партыі і яе газэтных рэдакцыях. Сканфіскавана маса літэратуры—у сувязі з першамайскімі выступленьнямі камуністаў.

На запытаньне дэпутатаў прэдстаўнік ураду адказаў у англійскім парляманьце, што даўгі былой Расеі адной Англіі—разам з працэнтамі—складаюць 962.615.000 фунтаў стэрлінгаў, ці больш як 9 з паловаў мільярдаў залатых рублёў! Але ў гэтую лічбу не ўваходзяць яшчэ даўгі прыватным асобам, якія даходзяць да 255 міл. фунтаў (фунт ст.—каля 10 зал. рублёў).

Бэльгійскі ўрад усьцяж адмаўляецца ад усялякіх афіцыяльных зносінаў з СССР. Міністар зам. спраў Бэльгіі Гюйманс—на запытаньне аднаго сэнатара—заявіў толькі што ў Сэнаце: „У нас няма ніякае ахвоты даваць Радам магчымасьць адчыніць у Бэльгіі пляцоўку дзеля рэвалюцыйнай прапаганды“.

Францускі ўрад правёў праз парлямэнт закон аб абавязковым „сацыяльным страхаваньні“. Закон трэбуе ад дзяржаўнага скарбу каля 6 мільярдаў франкаў у год. Сацыяльнае страхаваньне—паводле новага закону—ахоплівае выпадкі хваробы, усялякага роду бяды і няшчасьця, старасьці, сьмерці (хаўтурныя дапамогі) і т. д. Абавязковаму страхаваньню падлягае кожны працоўнік, як мужчына, таксама і жанчына, годавая пэнсія якога не балей 18.000 франкаў (каля 450 зл. у месяц).

У Індыі распачаты Гандім рух „пасыўнага апору“, скіраваны проці Англіі разрастаецца. У цэлым радзе мейсц адбыліся арышты аднадумцаў Гандзі, ды шмат дзе ўжо палілася кроў.

Цікаўна, што Камінтэрн, які дагэтуль быў прыхільны да індускага руху (як некалі і да беларускага!), раптам зьмяніў свае адносіны да яго і выступае варожа проці лініі Гандзі.

Пачынае неяк будзіцца да сьведамага палітычнага жыцьця і страшэнна адсталая Абісынія. Як заўсёды, „будзіць“ народ да самапомачы маральны развал і няздольнасьць яго „валадароў божай міласьцю“.

У Абісыніі паўстанчы рух проці новага нэгуса (імпэратара) выкліканы тым, што гэты новы валадар Рас-Тафоры, каб сесьці на трон, проста забіў папярэднюю імпэратарыцу... Паўстаньне ідзе пад лёзунгам „помсты за імпэратарыцу“, ці мае як быццам манархічны характар. Але народ хутка разьбярэцца ў сутнасьці справы,—трэба яму толькі зрушыцца з мейсца, прачхнуцца са сну.

Войска новага нэгуса сьпярша біла паўстанцаў, але пасьля паўстанцы разьбілі на-галаву ўрадавую армію. Такім чынам Рас-Тафоры змушаны будзе адмовіцца ад трону...

# Хроніка.

× **Сьпісак № 41 Беларускіх Сялян і Работнікаў заменены сьпіскам Беларускага Сялянска-Работніцкага Блёку.** Як ведама, ў Лідзкім вокрузе па сьпіску № 41 Беларускіх Сялян і Работнікаў другім у Сойм быў прайшоў у 1928 г. Фл. Валынец, каторы замест беларускай работы рабіў работу чужую і шкодную Беларусам. Каб не праводзіць Валынца другі раз сьпісак № 41 Беларускіх Сялян і Работнікаў Беларусамі зьняты, а замест яго, ўжо без Валынца і з некаторымі іншымі зьменамі, пададзены сьпісак Беларускага Сялянска-Работніцкага Блёку. Магчыма, што гэты апошні сьпісак так сама будзе мець № 41.

× **Расклад у партыйным балоце.** Тактыка камуністычнае партыі і блізкіх да яе груп, абапертая не на гуртаваньні ідэйных людзей, а на куплі за грошы рознае прадажнае каналіі, дае свае плады. Мы ўжо адзначалі імёны такіх камуністаў-правакатараў, як Гурын, Кузьма, Більскі-Бабіч, Вышынскі, што займалі кіраўнічыя становішчы ў партыі і за юдавы срыбнікі прадавалі ідэйных камуністаў. І гэтакая гніль трывае ў партыі і далей. Доказам гэтага служыць выпадак, які стаўся ў Вільні гэтымі днямі. Тут да староства нейкі няведамы чалавек прынёс даволі вялікую пачку і прасіў аддаць старосьце, а сам пайшоў сабе. Калі распячаталі пачку, дык у ёй аказаўся тайны архіў аднадумнае з камуністамі партыі ППС-лявіцы,—ў тым ліку кнігі пратаколаў, усялякія інструкцыі камуністычнае партыі і іншыя кампрамітуючыя дакумэнты.

Хто „засыпаў“ ППС-лявіцу, няма ведама. Але ясна толькі адно, што сярод „камунізуючых“ так сама гнязьдзяцца правакатары, як і сярод камуністычнае партыі...

Гожа прыпомніць, што за апошнія тыдні, як-раз падчас падгатоўкі да маёвых выступленьняў, паліцыя зрабіла масавыя арышты сярод найбольш актыўных камуністычных дзеячоў. Ня дзіва: за кулісамі партыі хаваюцца дэфэнзыўшчыкі!

× **З Беларускага Навуковага Т-ва.** 24-га красавіка адбылося паседжаньне новаабранага ўраду Беларускага Навуковага Т-ва пад старшынствам грам. А. Луцкевіча. Урад у першы чарод прыступіў да разгляду справы выпаўненьня дырэктываў адбытага 6 красавіка агульнага сходу сяброў Т-ва.

У першы чарод была разгледжана справа куплі ўласнага дому дзеля ўжытку беларускіх культурных установаў і арганізацыяў. Урад мае цэлы рад прапазыцыяў прадаўцоў дамоў, між якімі ёсьць і прыступныя для Т-ва. Дзеля гэтага, згодна з высказаным на агульным сходзе пажаданьнем, пастаноўлена папярэдзіць Беларускі Каапэратыўны Банк, што сумы Фонду Дому Беларускае Культуры (звыш 10.000 зл.) будуць узяты з тэрміновага рахунку ў гэтым Банку.

Далей пастаноўлена паведаміць усіх сяброў, якія не аплацілі сяброўскіх складак за паўтара году, што яны павінны аплаціць свой доўг у прадягу месяца (да 1 чэрвеня). У выпадку неаплаты, такія сябры, згодна з § 10 Статуту, будуць прызнаны выбыўшымі з Т-ва.

З высказаных агульным сходам пажаданьняў аб разьвіцьці дзеяльнасьці Т-ва ў першую чаргу пастаноўлена прыступіць да выдаваньня **квартальніка Бел. Нав. Т-ва.** Першы нумар павінен быць выпушчаны ўвосені. **Прыймо матэрыялаў вызначана да 15-га жніўня.**

1-га чэрвеня пастаноўлена склікаць першую чарговую дыскусыйную зборку сяброў Т-ва, пасьвячоную памяці вялікага князя Вітаўта з прычыны прыпадаючага сёлета 500-леьцьця ад дня сьмерці яго. Намечаны два даклады. Зборка адбудзецца ў актовай салі Віл. Бел. Гімназіі. Апрача сяброў будуць мець доступ і запрошаныя госьці. Гэткія зборкі надалей будуць склікацца пэрыядычна.

Рэалізацыя другіх пунктаў праграмы працы Т-ва будзе абгаварывацца на наступных сходах.

У канцы—ў сувязі з 25-леьцьцем Украінскага Нацыянальнага Музэю ў Львове і 30-леьцьцем працы на мітрапалічым пасадзе фундатара Музэю, мітрапаліта Шэптыцкага, ўрад Бел. Нав. Т-ва пастанавіў асыгнаваць 200 зл. на фонд разбудовы Укр. Нац. Музэю, чым украінскае грамадзянства адзначае гэтыя два юбілеі.

× **З беларускага каапэратыўнага жыцьця.** Як ведама, ў Вільні ўжо некалькі гадоў існуе беларускае спажывецкае таварыства — каапэратыў „Спулдзельца“. Беларускае — бо вялізарная большасьць сяброў (звыш 160) складаецца з беларусаў. Каапэратыў разьвіваецца гэтак памысна, што нейкі час меў ажно дзьве свае крамы (пры Вострабрамскай і пры Кальварыйскай вул.), але краму на Сьніпішках мусіў зьліквідаваць, бо там —паміж іншым—проці беларускае каапэрацыі павялі барацьбу камуністы, агітуючы проці яе сярод тамтэйшага работніцкага насяленьня. Гэтак цяпер існуе толькі адна крама—пры Вострабрамскай вул.

На мінулую нядзелю, 27 красавіка, быў назначаны агульны сход таварыства ў памяшчэньні саюзу каапэратываў „Сполэм“ пры вул. Росса. Аднак, з увагі на тое, што на сход прыйшла толькі нязначная частка сяброў (кала 20), сабраўшыяся не скарысталі з свайго права адбыць сход пры гэтай лічбе і пастанавілі адкласьці паседжаньне на 16 мая, ў 7 гадз. увечары, ў тым-жа памяшчэньні.

Беларускае грамадзянства Вільні павінна выявіць балей зацікаўленьня да гэтае нашае эканамічнае ўстановы, якая, ня гледзячы на агульныя цяжкія варункі працы, мае добры грунт.

## З вясеньніх матываў.

О, вясна, вясна-сястрыца!
Ты ізноў да нас прыйшла.
На цябе я надзівіцца
Не магу з свайго вакна.

Ты магутнаю рукою
Родны кут прыбрала ў рай,
А з маёю ты душою
Што зрабіла?—ня пытай!

О, вясна, вясна, чаму-то
Ты заўсёды ня жывеш,
І нашто ты зіме лютай
Край на збыткі аддаеш?

Пружаны 3-III-30 г. **М. Крывіцкі.**

# Карэспандэнцыі.

## Няўдача пасла Крынчыка.

(м. Крэва, Ашмянскага пав.).

25 красавіка ў Крэва прыехаў пасол П. Крынчык і зрабіў перадвыбарны мітынг. Нашы сяляне спачатку слухалі, а потым, зразумеўшы з яго мовы, хто такі ёсьць Крынчык, пачалі гнаць яго вон. Бо і праўда, Крынчык не нападаў амаль зусім на тых, хто сяньня ўціскае беларускае сялянства, а толькі выліваў усякі бруд на ўсіх беларускіх палітычных дзеячоў, каторыя дзесяткі год працуюць ахвярна на ніва беларускага адраджэньня. Вось-жа сяляне падчас гэтае зьвягі пасла Крынчыка, грамадой з крыкам „проч камуністаў“ кінуліся сьцягнуць яго з трыбуны, але разюшаную таўпу паўстрымаў павятовы паліцэйскі камандант з Ашмяны.

Тады сяляне, бачучы, што Крынчыка бароніць паліцыя, абкідалі яго яйкамі і большасьць разышлося. А слухаць нягоднай прамовы Крынчыка засталася толькі напоеная ім „ахранка“ ды кучка несьвядомых сялян.

Як з усяго гэтага вынікае, Крэўскія сяляне зразумелі, што ня кожны той ёсьць беларусам, хто гавора пабеларуску, а часта бывае і воўк у авечай скуры.

**Б. Д—іч.**

## Камуністы і польскія асаднікі.

(м. Вішнява, Валожынскага пав.).

У сераду 23-га красавіка, карыстаючыся кірмашным днём, у нашым Вішняве было зарганізавана перадвыбарнае веча ад Беларускага Сялянска-Работніцкага Блёку. Калі выступіўшы на вечы з прамовай грам. Ст. Станкевіч пачаў высьвятляць шкодную работу „Страніцтва Хлопскага“, то на яго нягодна напалі польскія асаднікі, дэфэнзыўшчыкі й камуністыя з мэтаю пабіць прамоўцу, аднак сяляне змаглі ў час адбіць напад і не дапусьціць да пабіцьця прамоўцы. Вялікая маса народу, прысутная на вечы, глыбока абурылася проці такога паступку і дамагалася прадаўжаць веча, але паліцыя штыхамі пачала разганяць народ, які ня гледзячы на гэта, яшчэ доўгі час вялізарнай таўпой акружаў прамоўцу і прасіў яго далей гаварыць.

Варта адзначыць у сувязі з гэтым вельмі характэрнае зьявішча, а іменна, што разам з асаднікамі і дэфэнзыўшчыкамі рука ў руку напалі на беларускага прамоўцу і камуністыя, з пасярод якіх найбольш адзначыўся ведамы тут „Лёнька“. Цікава й тое, што, калі таўпа асаднікаў ляцела з дзікім крыкам на прадстаўніка бекарускага сьпіску і пачынала яго біць, то паліцыя не бараніла (баранілі людзі), а калі пасьля гэтага прамоўца пробаваў прадаўжаць веча, то паліцыя штыхамі пачала разганяць народ.

Аднак усе гэтыя наскокі для нас ужо ня страшны. Беларускія працоўныя масы ўжо зразумелі, хто іхні вораг, і ані польскім асаднікам, ані камуністам служыць ня будуць. Нашым шляхам ёсьць змагацца ўласнымі сіламі.

Варта адзначыць, што ў зьвязку з вышэйшым фактам нашыя сяляне гоняць вон здрадніцкае „Стронніцтва Хлопскае“ (№ 10), а зьбіраецца галасаваць за свой уласны сьпісак — „Беларускі Сялянска-Работніцкі Блёк“.

Дык ведайце сяляне, што ніводнага голасу чужым прыблудам, каторыя наслалі на нашу зямлю асаднікаў, як „Стронніцтва Хлопскае“, камуністых і інш.

**Селянін з пад Вішнева.**

## Адказ паном паслом.

(М. Гарадок, каля Маладэчна).

Папаўшы прыпадкова газэту „На варце“, я ня мог змаўчаць і не адказаць на баламуцтвы паноў паслоў з клюбу „Змаганьне“, што змагаецца толькі з беларускімі барацьбітамі, хоць гэтым маленькім вершыкам:

Ох, паслы, мае пасломкі!
Не туманьце нашы вочкі,
Бо заплачуць дзеткі, жонкі:
Трапім дзеля Вас у Вронкі.
Вас хоць помніць нехта будзе,
Нас увесь сьвет пазабудзе.
А „Наперад“ так ня ганьце,
На сябе Вы лепі гляньце,
Бо хто сам сябе так хвале,
Няхай таго пярун спале!
І калхозаў не хваліце:
Добра? — дык да іх валіце!
Мы ужо па-воўчу пелі,
Скуры шмат чые цярпелі:
Залізалі трохі раны,
Дык вось на: паслы выбраны
Замест згоды, таго раю,
Даліпан і сам ня знаю, —
Ладзяць грызьню, сунуць сварку,
Як спасьціўшамуся скварку,
Як галоднаму кус хлеба,
Ці забойцы тое неба.
Не, паслочкі, не, браточкі, —
Праціpайце згодай вочкі:
Мы тады за Вамі пойдзем,
Бо багацьця сілу знойдзем.

**П. Былінка.**

## Няўдалы мітынг паслоў і сэнатараў з „восемнасткі“.

(м. Валожын).

Насяленьне м. Валожына і ваколіцаў ёсьць сьвядомыя Беларусы і не паддаюцца ўсякім ашуканствам. Гэтак і ў справе выбараў нашы сяляне ў 1928 г. вылучна галасавалі за свой сьпісак „Беларускіх сялян і работнікаў“ № 41. І не ашукаліся, бо вось пасол гэтага сьпіску др. Я. Станкевіч, ня ў прыклад іншым, не праседжаваў у варшаўскіх рэстаранах, а разяжджаў па свайму вокрузе, закладаў культурна-гаспадарчыя таварыствы, кнігарні ды беларускія школы. Вось-жа гэтыя заслугі ўжо ацанілілі нашы сяляне і будуць за тое галасаваць ізноў за той-жа сьпісак, дзе стаіць грам. Станкевіч, а іншым сьпіскам не дадуць ніводнага голасу. А розныя іншыя партыі, якія для нас зусім не адпавядаюць, жыруюць моцна на нашы галасы. Гэтак перадусім т. зв. „Блёк Нап. Меншасьцяў“ (№ 18), ад якога 24-га красавіка зьявілася ў Валожыне сэнатары В. Багдановіч, В. Рагуля і пасол Ф. Ярэміч ды распачалі мітынг акружаны жыдоўскай ахранкай. Але народ наш, даведаўшыся, хто яны такія, ня даў ім і гаварыць. Так што бедныя сэнатары паехалі, з чым прыехалі.

**Валожынец.**

## Да выбіральнікаў Ашмянскага павету.

Пры выбарах у Сойм 1928 г. я быў выбарным інструктарам на цэлы Ашмянскі пав. ад сьпіску № 18 Блёку Нацыянальных Меншасьцеў. Быў я такжа кандыдатам на Сойм ад гэтага сьпіску.

Але, нажаль, пасьля выбараў аказалася, што паслы з № 18 Блёку Нацыянальных Меншасьцяў мала працуюць, як прыкладам б. пасол Стэповіч, або нічагусенькі ня робяць, як паслы—Юхневіч, Каруза, Ярэміч і сэнатары Рагуля й Багдановіч.

Апроч таго, першы кандыдат сьпіску № 18 у Лідзкім вокрузе, А. Більдзюкевіч, адрокся беларускай справы, здрадзіўшы наш народ ды залажыў польскую школу. Іншы кандыдат, Язэп Яковіч, стаў рэфэрэнтам Лідзкага староства і, як польскі ўрадовец, калі-б быў абраны за пасла, дык слухаў-бы свае ўлады, а не глядзеў-бы патрэбаў Беларускага Народу. Трэці кандыдат ёсьць жыд Чэрніхаў. Такім парадкам сьпісак № 18 стаўся дяпер запраўды польска-беларуска-жыдоўскім блёкам, а я працаваў за блёк нацыянальных меншасьцяў.

Дык дзеля ўсяго вышсказанага адмаўляюся ад супрацоўніцтва са сьпіскам № 18 так-званага Блёку Нацыянальных Меншасьцяў і здымаю сваю кандыдатуру з іхняга сьпіску.

А дзеля таго, што праца пасла др. Я. Станкевіча была шчырай і карыснай для справы нашага Беларускага Народу, ды што такжа іншыя кандыдаты сьпіску Беларускага Сялянска-Работніцкага Блёку ведамыя сваей карыснай працаю для нашага народу, дык заклікаю ўсіх галасаваць за Сьпісак Беларускага Сялянска-Работніцкага Блёку.

**Міхал Галяс.**

10 красавіка 1930 г.
У Ашмяне.

## Зразумеў.

У № 3 „На варце“ надрукавана была карэспандэнцыя „Паражка ўгоды ў Ашмяне“, падпісаная Антонам Русецкім. Апошні ў гэнай карэспандэнцыі, войстра нападаючы на „Страннiцтва Хлопскае“ й „Вызваленьне“, паміж іншым няпрыязна адазваўся аб б. паслу д-р. Я. Станкевічу. Былі такжа чуткі, што А. Русецкі ў гутарцы з знаёмымі пашыраў несправядлівыя весьці аб д-р Я. Станкевічу. Дзеля таго Ашмянскія беларусы просяць надрукаваць гэткую заяву А. Русецкага:

„Я ніжэй падпісаны Антон Русецкі з вёскі Гінеўцы Куцеўскай вол., Ашмянскага пав. заяўляю, што ўсё тое, што калі-колечы казаў ці пісаў благое проці былога пасла д-р Яна Станкевіча ёсьць няпраўда. Кажучы благое проці Янкі Станкевіча, я мыліўся. Я пераканаўся, што б. пасол Я. Станкевіч ёсьць чэсным беларускім дзеячом і шчырым абароньнікам Беларускага Народу.

Адначасна заяўляю, што праца паслоў так званага Беларускага Сялянска-Работніцкага Клюбу „Змаганьне“ ёсьць шкоднай для Беларускага народу; таксама лічу шкодным польска-беларуска-жыдоўскі сьпісак № 18 т. зв. Блёку Нацыянальных Меншасьцяў.

**Антон Русецкі.**

Ашмяна, 18 красавіка 1930.

## Рэха вёскі Хлюпіч.

(Жухавіцкае валасьці, Стаўпецкага пав.).

Здаецца, што вёска Хлюпічы ў сваіх грамадзкіх абавязках—у змаганьні за лепшую будучыню свае бацькаўшчыны—служыла прыкладам для другіх вёсак. А тут раптоўна нешта папсавалася. Сярод сялян пачалася дэмаралізацыя: адзін аднаго правакуе перад уладай, робіцца душапрадаўцам, Гэрадам, як напрыклад: Мікалай К.-Ш., Васіль К-та, Гальяш К-ль і шмат іншых. Ажно дзіва бярэ, браты, што Вас сусьветная завіруха нічога не навучыла...

Хай солтыс вёскі, які запусьціў свае карэньне за гарэлку, ходзіць вечарам пад вокнамі ды выпаўняе функцыю даношчыка, але Вы... Хто Вас пашкадуе: „Ганчар“, Вам ведамы, не пачакае і дня, каб ты канаў; няма дома гаспадара,—з бабамі б‘ецца, якія часта за полы цягаюць; у яго ніякага чалавечага сумленьня няма. А гміна... Што-ж гміна? Хіба-ж нікому ня ведама, што тут гаспадаруе „свая кумпанія“, якая пэўна ж селяніна-беларуса не пашкадуе ў ніякай бядзе.

Нядаўна зьліквідавалі цэлую маемасьць, нат, хаткі не аставілі, а ты, брат, ідзі ў сьвет разам з жонкаю і чатырма маленькімі дзеткамі...

Дык вось, браткі, толькі Вы самі можаце сабе памагчы, толькі патрэбна моцная вера ў свае ідэалы, патрэбна еднасьць. І толькі сваей уласнай працай Вы свайго дасягнеце, бо Вам ня дасьць ніхто і не пашкадуе Вас ніхто.

**Грам.**

## Адказ дэмаралізатарам беларускага жыцьця.

(*Ліст у Рэдакцыю*).

Групка людзей, злая на мяне асабіста за тое, што я пад канец 1926 г. не згадзіўся разам з імі „зьбіваць галовы ў беларускім руху“ ды ў 1927 г. актыўна выступіў проці дэмаралізаваньня гэнай групай беларускага жыцьця, ужо тры гады як стараецца мне імсьціць, ня грэбуючы найнегаднейшымі спосабамі.

Дык і надовечы ў № 15 „Biełaruskaje Krynicy“ з 18 красавіка сёлета адумысьля надрукавана проці мяне стацьця „Каго выбіраць?“ У стацьці гэнай нямашака аба мне ані крышку праўды.

З усяе маны ў гэнай стацьці лічу патрэбным толькі адказаць на два сьвядома-хвалшывыя закіды.

1) У гэнай стацьці кажацца: „у Сойме былі такія выпадкі, што галасаваў разам з ББ (урадовая партыя)“.

Прызнаюся да гэтай „віны“. Запраўды былі такія, праўда надта рэдкія, прыпадкі, што я ў Сойме галасаваў разам з ББ. Было гэта сёлета, калі мне ўдалося пераканаць Клюб Бесп. Блёку Супрацоўніцтва з Урадам і іншыя польскія клюбы (апрача „Пяста“ й эндэцыі) аб патрэбе прызнаць 200 тысячаў зал. на будоўлю бурсы Беларускае Гімназіі ў Наваградку. Другі раз таксама было сёлета, калі пас. Ярэміч у паразуменьню з ББ зрабіў пропозыцыю прызнаць 50 тысячаў „дзеля даньня магчымасьці друкаваць беларускія школьныя падручнікі“. Хоць у гэт‘кай рэдакцыі я не спадзяваўся карысьці ад прыйма гэтае папраўкі, але не магла яна й шкодзіць; дык я йзноў галасаваў за яе разам з ББ.

Але **ніколі** я не галасаваў разам з ББ на пропозыцыі шкодныя Беларусам. Каб я хоць раз галасаваў за гэт‘кія (шкодныя) пропозыцыі разам з ББ ці без яго, дык адразу аб гэтым напісалі-б „Biel. Krynica“ і „Сялянская Ніва“, а тымчасам яны ані разу аб гэтым не напісалі. Дык менаваныя часапісы самі сьведчаць за мяне.

Затое калі я вясной 1928 г. ўнёс пропозыцыі ў Сойме аб прызнаньні грошаў на будоўлю будынкаў Беларускае Гімназіі ў Наваградку, Вільні, Беларускага музэю ў Вільні і будынку для Беларускае Вучыцельскае Сэмінарыі ў Лідзе, дык проці гэтых пропозыцыяў разам з ББ галасаваў пас. Ярэміч, галасаваў на шкоду Беларусам. Тады аб гэтым было надрукавана ў час. „Народ“. Тады было зараз-жа просьле выбараў, на каторыя пас. Ярэміч ішоў у блёку з Жыдамі й Украінцамі, што не пасьпелі яшчэ разабрацца ў беларускіх адносінах. Дык із салідарнасьці із сваім выбарным сябром галасавалі проці мае папраўкі Жыды і блёкавыя Украінцы (радыкальныя ўкраінскія соцыялістыя галасавалі за маю папраўку). Дзеля таго й менаваныя мае папраўкі тады не прайшлі.

2) У тэй-жа стацьці пішацца: „на супалку з Юстынам Мурашкам (кандыдатам у Сойм ад нумару 41 у Сьвянцянскім вокрузе) закупіў 600 дзесяцін зямлі. З ласкі панскай купіў ён гэту зямлю дужа танна з тэй мэтай, што адпрадасьць яе нашым сялянам і шмат заробіць“.

А запраўды ёсьць начай.

З належачага да А. Аляксандрава ўрочышча Рудня (каля 600 гэктараў), Жойдзішнае вол., Вялейскага павету часьць купіў Язэп Сьвятліцкі з в. Руда Яворская, Курылавіцкае вол., Слонімскага пав., часьць Ю. Мурашка і каля 200 гэктараў запісана пры куплі на мяне. Ю. Мурашка купіў найменей. Точныя лічбы няведамы, бо зямля яшчэ не памерана.

Была думка, каб якая беларуская арганізацыя купіла сама ўсю Рудню дзеля таннай парцэляцыі паміж безьзямельнымі й малазямельнымі беларускімі сялянамі ды каб даць частку пад санаторыю для хварэючых на сухоты беларускіх дзеячоў. Але дзеля таго, што арганізацыі ня мелі грошаў, дык часьць купіў Я. Сьвятліцкі і часьць Ю. Мурашка. Калі-ж арганізацыя ня мела грошаў і на асталых 200 гэктараў (прыблізна), дык грошы на куплю іх пазычаў я ў свайго швагры доктара мэдыцыны Яр. Навака ў Празе, а тысяча (1.000) зал. пазычыў у свайго айчыма Антона Чатыркі. Рабіў я гэта маючы на ўвеце тыя самыя мэты, дзеля якіх гэную зямлю манілася купіць арганізацыя, г. зн. каб потым парцэляваць без заробку паміж безьзямельмымі й малазямельнымі беларускімі сялянамі ды даць частку пад санаторыю. Але заплаціўшы за зямлю пазычанымі грашыма, каб забясьпечыць іх, мусіў зямлю запісаць на сябе.

На пазычаныя ў швагры грошы я маю дакумэнты (грошы прысланы праз банк), а на пазычаныя ў айчыма Антона Чатыркі цікавыя могуць пабачыць у яго мой вэксаль (адрэс А. Ч.: Арляняты, Крэўскае, вол., Ашмянскага п.)

„Biel. Krynica“ піша, што „З ласкі панскай купіў ён гэту зямлю дужа танна з тэй мэтай, што адпрадасьць яе нашым сялянам і шмат заробіць“.

Ня ведаю скуль „Biel. Krynica“ ведае аб такіх плянах нейкіх ласкавых да мяне паноў зрабіць мяне багатым.

Але праўда, што ўсе тры мы купілі гэтую зямлю вельмі танна, бо разам з доўгам у банк гэктар абыйшоўся па 65 зал., а бяз доўгу ў банк, каторы трэба плаціць у працягу 51 г. — 40 зал. Але ня было тут нічыей ласкі. Гэтую „ласку“ я магу пераўступіць кожнай беларускай арганізацыі, калі толькі яна забавяжацца выпаўніць тыя заданьні, дзеля каторых куплена запісаная на мяне часьць Рудні і толькі верне мне тыя грошы, каторыя я заплаціў. Навет няхай паразумеецца з маімі пазычэльнікамі (з тымі, што мне пазычылі грошы) і доўг з мяне перавядзе на сябе. Я із свайго боку абяцаю ўсялякую помач у гэтай справе.

„Biel. Krynica“ сьвядома хвалшуючы справу куплі Рудні, хоча прадставіць мяне ў вачох нашага сялянства, як чалавека, каторы забагацеў з пасольскага мандату. Гэтыя хвалшывыя закіды якраз робіць тая група, сябры каторай, будучы пасламі, пакуплялі сабе і сваім сваяком зямлю і ня толькі зямлю. Гэтак кс. Адам Станкевіч купіў сваёй сястры Ганне Гарлуковічысе 18 гэктараў найлепшай зямлі ў Карпуцішках ля Барун і 3 гэктары ў Смалянцы недалёка Барун, другой сваёй сястры Амэлі, што замужам у Вішнеўцы, Крэўскае вол., перастравіў увесь будынак, ня кажучы ўжо аб іншых ягоных падарках.

Я заяўляю, што ў згодзе з мэтамі, з якімі была купляна запісаная на мяне часьць Рудні, я гэную часьць як га магу памяняць на зямлю купленую кс. А. Станкевічам яго сястры Г. Гарлуковічысе навет на адны яе Карпуцішкі.

Зробленыя ў гэтым лісьце заявы прашу прыняць як пропозыцыі.

**Д-р Ян Станкевіч.**

19. IV. 1930.



Рэдактар-Выдавец: **М. Сіняўскі.**

Друкарня Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22.